**282.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім прыклады якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў. Раскажыце пра іх асаблівасці (пры неабходнасці карыстайцеся прыведзенай вышэй схемай).

ХВЕДАР І СІВАВАРОН

Як і мае аднавяскоўцы, цімкаўцы ездзілі рабіць сена на палескія балоты — за Вызну, Веску, Орлік і Малы Рожан.

Едучы з сенакосу цэлым абозам цераз палескія сёлы, яны весела перагукваліся, перагаворваліся з вазоў.

Палешукі любілі гэтыя відовішчы. У жыцці глухой лясной вёскі[м] гэта была падзея — пабачыць чужых людзей, паслухаць мову, не зусім падобную на іх гаворку.

Ловіцца кожнае слова. Нават простае імя здаецца дзіўным, рэжа слых сваёй незвычайнасцю.

— Сіваварон! Чуеш, Сіваварон, у іх чалавека Хведарам завуць. Гы-гы-гы!

Хведарава імя смешнае для палешука, а тое, што ён Сіваварон, дык гэта ж так і трэба *(В. Вітка)*.

● Утварыце і запішыце ўсе магчымыя ступені параўнання ад прыметніка *простае* (імя).

● Выпішыце з чацвёртага абзаца тэксту рознаскланяльны назоўнік, праскланяйце яго.

## § 31. Утварэнне ступеней параўнання якасных прыметнікаў

**283.** Карыстаючыся табліцамі, раскажыце, як утвараюцца ступені параўнання якасных прыметнікаў.

**Вышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| 1. Аснова ці корань прыметніка + суфікс ***-эйш-, -ейш-***:<br>*высокі — вы**шэйш**ы*<br>*светлы — свят**лейш**ы*<br>2. Суплетыўная (іншая) аснова прыметніка + суфікс ***-ш-***:<br>*добры — леп**ш**ы* | Прыметнік + ***больш (болей), менш (меней)***:<br>*высокі — **больш** высокі*<br>*светлы — **менш** светлы* |

**Найвышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| Простая форма вышэйшай ступені + прыстаўка ***най-***: *вышэйшы — **най**вышэйшы* | Прыметнік + ***самы, найбольш, найменш***: *высокі — самы высокі* *светлы — найменш светлы* |

**284.** Падзяліце прыметнікі на тры групы: 1) утвараюць усе формы ступеней параўнання; 2) утвараюць толькі складаную форму ступеней параўнання; 3) не утвараюць ступеней параўнання. Што абазначаюць прыметнікі трэцяй групы?

Ад прыметнікаў першай і другой груп утварыце і запішыце формы ступеней параўнання.

Ліловы, добры, буланы, гарысты, блізарукі, гняды, трывожны, малінавы, рашучы, светла-зялёны, карычневы, шурпаты, шчаслівы, лёгкі, удумлівы, чарнявы, вусаты, босы, урадлівы, яснавокі, вясёлы, дысцыплінаваны.

**285.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце іх. Параўнайце ўтварэнне і ўжыванне форм ступеней параўнання прыметнікаў у беларускай і рускай мовах.

1. Воспитывать душу и силу чувств — не только труднейшее из искусств, но и важнейшее дело! *(Э. Асадов)*. 2. Ярче было солнце, сильнее пахли тополя, громче был гром, выше трава *(К. Паустовский)*. 3. Уши рыси даже во время сна чутко ловили малейший звук, как радиоантенна ловит легчайшие колебания электрических волн *(В. Бианки)*. 4. Звон воды был другой — тяжелее и без мелодии *(В. Короленко)*. 5. Величайший литературный авторитет, Горький в разговоре с писателями о редакционных делах был гораздо более учтив и уступчив, чем иной из служащих в «аппарате» издательства *(К. Чуковский)*. 6. Короленко, как любезный хозяин, счёл своим долгом рассказать несколько интереснейших случаев из своей жизни в Румынии *(К. Чуковский)*.

● Зрабіце марфалагічны разбор якаснага і адноснага прыметнікаў.

**286.** Знайдзіце памылкі ва ўтварэнні і ўжыванні форм ступеней параўнання прыметнікаў. Адрэдагуйце сказы і запішыце іх.

1. Удзельнікі свята маюць магчымасць набыць тавары беларускіх вытворцаў па больш ніжэйшых цэнах. 2. У залах музея выстаўлены лепшыя ўзоры беларускага жывапісу XX стагоддзя. 3. На чэмпіянат свету трапілі шаснаццаць мацнейшых каманд з чатырох кантынентаў. 4. Забеспячэнне харчовай бяспекі — адна з найбольш важнейшых задач любой краіны. 5. Стартуе самы маладзёжны праект «Адкрытая пляцоўка»! 6. Мінулая зіма была самая найцяплейшая з тых, якія памятае мой бацька. 7. З гадамі дзед станавіўся ўсё больш глухім.

## § 32. Поўныя і кароткія формы прыметнікаў. Прыналежныя прыметнікі

**287.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Параўнайце ўжыванне поўнай і кароткай форм прыметнікаў у тэкстах. Ці характэрна для беларускай мовы ўжыванне прыметнікаў у кароткай форме?

Бывает, входит в комнату незнакомый человек. Здоровается. Говорит как будто обычные слова — «добрый день». Пробудет недолго и уйдёт, оставив после себя хорошее, приятное впечатление.

«Обаятельный человек», — говорят о нём. Секрет его обаяния прост: он умеет держать себя в обществе, умеет скрывать дурное настроение, владеть собой.

Когда человек спокоен, это не значит, что он неэмоционален. Просто он хорошо воспитан. Воспитанный человек никогда не позволит себе кричать и грубо разговаривать с людьми, особенно с теми, кто ниже его по положению. Он понимает, что грубый тон только роняет его в глазах собеседника *(По С. Михалкову)*.

Якасныя прыметнікі ў беларускай мове ўжываюцца пераважна ў поўнай форме. У залежнасці ад роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку яны маюць канчат-

кі -*ы (-і), -ая (-яя), -ае (-яе)*, у назоўным склоне множнага ліку — -*ыя (-ія)*. Поўныя прыметнікі скланяюцца, у сказе бываюць азначэннем і выказнікам: *Усталявалася пагодная вясна. Раніцы былі халодныя* (А. Чарнышэвіч).

Кароткія прыметнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду ўжываюцца з нулявым канчаткам *(рад□)*, у жаночым і ніякім родзе — з канчаткам -*а* *(рад*[*а*]*)*, у назоўным склоне множнага ліку — з канчаткам -*ы (-і)* *(рад*[*ы*]*)*. Кароткія формы прыметнікаў не скланяюцца, змяняюцца толькі па родах і ліках. У сказе выступаюць у ролі выказніка: *Ручай і так быў свеж і чыст* (М. Танк).

У беларускай мове ўжыванне кароткіх прыметнікаў абмежаванае: яны сустракаюцца ў мастацкім стылі пераважна ў вершаваных творах, дзе іх выкарыстанне абумоўлена рытмам і рыфмай.

Ад кароткай формы якасных прыметнікаў трэба адрозніваць усечаную (сцягнутую) форму, якая зрэдку сустракаецца ў паэтычных творах і ўжываецца ў беларускіх народных гаворках: *Цякла тут з лесу невялічка травой заросшая крынічка* (Я. Колас).

**288.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс. Назавіце прыметнікі. Вызначце, у якой форме (поўнай ці кароткай) яны ўжываюцца. Спішыце, падкрэсліце прыметнікі як члены сказа.

1. На чужой старане і вясна не красна. 2. Не той харош, хто з твару прыгож, а той харош, хто да справы гож. 3. Багаты брат беднаму не рад. 4. Як ем, то глух і нем. 5. Калі ты худ, то не лезь да паноў на кут. 6. Хоць і ростам невялік, ды рука з пудавік.

**289.** З паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» выпішыце 5-6 сказаў з кароткімі прыметнікамі. Вызначце іх функцыянальна-стылістычную ролю ў тэксце.

## Прыналежныя прыметнікі

**290.** Ад слоў, што ў дужках, утварыце прыметнікі. Дапасуйце іх да назоўнікаў. Словазлучэнні запішыце. Што абазначаюць утвораныя прыметнікі, з дапамогай якіх суфіксаў яны ўтварыліся?

*(Ляснік)* дом, *(каваль)* сын, *(брат)* аўтамабіль, *(мядзведзь)* бярлог, *(бабуля)* жыццё, *(ластаўка)* гняздо, *(дачка)* паліто.



**291.** Карыстаючыся табліцай, раскажыце пра ўжыванне склонавых канчаткаў прыналежных прыметнікаў. Звярніце ўвагу, у якіх склонах яны маюць кароткую форму.

| Склон | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | мужчынскі род | ніякі род | жаночы род | |
| Н. | □ | *-а* | *-а* | *-ы* |
| Р. | *-ага* | *-ага* | *-ай* | *-ых* |
| Д. | *-аму* | *-аму* | *-ай* | *-ым* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. | *-у* | як Н. або Р. |
| Т. | *-ым* | *-ым* | *-ай (-аю)* | *-ымі* |
| М. | *-ым* | *-ым* | *-ай* | *-ых* |

**292.** Запішыце словазлучэнні, выбіраючы з дужак прыметнікі, утвораныя ў адпаведнасці з нормамі беларускай літаратурнай мовы.

*(Дзядулеў, дзядулін)* падарунак, *(Колеў, Колін)* веласіпед, *(Наташаў, Наташын)* брат, *(Андрэева, Андрэіна)* лодка, *(Сцёпкава, Сцёпчына)* куртка, *(Васеў, Васін)* рукзак.

**293.** Замяніце ў словазлучэннях назоўнікі роднага склону прыналежнымі прыметнікамі. Запішыце. Якія словазлучэнні, на ваш погляд, больш уласцівыя беларускай мове? Вусна праскланяйце апошняе словазлучэнне.

Сад дзеда, жыццё Андрэя, пісьмо мамы, гняздо сініцы, песня салаўя, загад старшыні, след бабра, просьба сястры.

**294.** Прачытайце фразеалагізмы, растлумачце іх сэнс. Запішыце. Абазначце суфіксы прыметнікаў.

Гордзіеў вузел, антонаў агонь, ахілесава пята, дамоклаў меч, мамаева пабоішча.

**295.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову, запішыце, абазначце суфіксы прыметнікаў.

Мишин ровесник, пастушья сумка, дедушкина инициатива, Петины друзья, беличье дупло.

## § 33. Лічэбнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля



**296.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце вуснае выказванне пра разрады лічэбнікаў.

**Разрады лічэбнікаў**

| Будова / Значэнне | | Простыя (маюць адзін корань) | Складаныя (складаюцца з дзвюх і больш асноў) | Састаўныя (складаюцца з двух і больш слоў) |
|---|---|---|---|---|
| **Колькасныя** | лічэбнікі, якія абазначаюць цэлыя лікі | *пяць, трынаццаць, сто, трыццаць* | *пяцьдзясят, чатырыста* | *сорак сем, сто трыццаць пяць* |
| | дробавыя | — | — | *дзве трэція, тры цэлыя і сем дзясятых* |
| | зборныя | *трое, сямёра, васьмёра, абодва* | — | — |
| **Парадкавыя** | | *шосты, дваццаты, мільярдны, другі* | *сямідзясяты, дзевяносты* | *тысяча дзевяцьсот сорак другі* |

**297.** Якімі часцінамі мовы з’яўляюцца наступныя аднакаранёвыя словы? Выпішыце лічэбнікі. Абгрунтуйце свой выбар.

Два, двое, двойчы, двойка, двайны, другі, двойня, па-другое, дваіцца;

чатыры, чацвёрка, чвэртка, чвэрць, чацвёра, учатырох, па-чацвёртае, учацвярых;

пяцёра, пяцёрка, пяты, па-пятае, пяцярня, пятак, пяцьсот, упяцярых.

**298.** Прачытайце тэксты. Вызначце іх стыль і абгрунтуйце свой адказ.

**I.** Валуны — згладжаныя вадой ці лёдам абломкі горных парод памерам больш за 10 см. **Большыя за 1 м валуны называюцца глыбамі, або камлыгамі.** Утвараюцца пры выветрыванні, разбуральнай дзейнасці мораў, азёр, рэк, ледавікоў і іх талых вод, пры апаўзанні кавалкаў горных парод па схілах гор. Ледавіковыя[сл] валуны трапляюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, найбольш на канцова-марэнных узвышшах. Прынесены яны ад 600 тысяч да 20 тысяч гадоў назад з Балтыйскага шчыта, Паўночна-Заходняй Рускай пліты. Памер валуноў памяншаецца з поўначы на поўдзень: у Паазер’і іх велічыня дасягае 6—11 м, на Беларускайградзе — 5—8 м, на Палессі — ад 1 да 3 м. Каля 65—75 % вялікіх валуноў — граніты, 20—25 % — гнейсы. Ёсць кварцыты, кварцавыя парфіры, даламіты і інш.

**Вялікія і адметныя валуны ўзяты пад ахову дзяржавы як помнікі прыроды.** У Беларусі такіх валуноў больш за 100 *(БелЭн)*.

Выпішыце словазлучэнні з лічэбнікамі. Лікі запішыце словамі. Растлумачце правапіс лічэбнікаў.

● Растлумачце пастаноўку коскі або яе адсутнасць перад словамі *як, або* ў выдзеленых сказах.

**II.** Гэтыя камяні ведае кожны. Ляжаць яны, уткнуўшыся ў зямлю, каля дарог і рэк, у полі і ў лесе.[сн] Прыбяры іх — і беларускі ландшафт стане бяднейшы.

Здаўна людзі па-свойму тлумачылі з’яўленне камянёў. У легендах і народных **казках** часта сцвярджаецца, што

валуны накідалі волаты, асілкі ці прыцягнулі чэрці. Старыя **сцвярджаюць**, што валуны растуць з зямлі, як грыбы.

Але валуны, як высветлілася, — іншаземныя прышэльцы, і прыйшлі яны сюды з ледпікамі. Рухаючыся праз Скандынаўскія горы, па дне Балтыйскага мора ў раўнінах Паўночнай Еўропы, лёд выдзіраў іх са свайго месца і цягнуў **цэлыя** глыбы абломкаў за сабою. Калі лёд растаў, камяні-падарожнікі аказаліся далёка ад сваёй радзімы *(Б. Гурскі, Э. Ляўкоў)*.

- Дайце характарыстыку гукам у выдзеленых словах.
- Выпішыце з тэксту рады аднакаранёвых слоў. Абазначце, з дапамогай якіх сродкаў утвораны вытворныя словы. Падбярыце (вусна) іншыя аднакаранёвыя словы гэтых радоў.

**299.** Прачытайце, правільна называючы лічэбнікі. Дайце тэксту загаловак.

16 чэрвеня 2006 года адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Візітнай карткай нашай рэспублікі цяпер можа быць 72-метровы «дыямент». Агульная плошча будынка — 113 000 квадратных метраў.

Прастора бібліятэкі рацыянальна арганізавана. Напрыклад, агульная чытальная зала для студэнтаў, навучэнцаў ПТВ і старшакласнікаў (а ўсяго ў бібліятэцы 19 чытальных залаў) двухузроўневая. Тут могуць кампактна размясціцца 411 наведвальнікаў адначасова. 60 месцаў у гэтай зале абсталяваны камп'ютарамі (ва ўсёй бібліятэцы 1400 аўтаматызаваных рабочых месцаў).

Многаўзроўневая архітэктура памяшкання прадыктавала неабходнасць укаранення асаблівай тэхналогіі — аддаленай дастаўкі дакументаў з выкарыстаннем тэлеліфта. Па ўсёй бібліятэцы пракладзена «монарэльса», па якой бегаюць «кейсы», што прывозяць заказаныя дакументы ў зоны карыстання. Час дастаўкі — 15—20 хвілін — унікальны для такіх плошчаў.

У фондах захоўваецца каля 70 тысяч асобнікаў каштоўнай рэдкай літаратуры, найбольш раннія дакументы дату-

юцца XIV стагоддзем. Гэта самая вялікая калекцыя ў краіне *(«Літаратура і мастацтва»)*.

Вызначце разрады ўжытых у тэксце лічэбнікаў паводле значэння і будовы (пры неабходнасці карыстайцеся табліцай «Разрады лічэбнікаў»).

Зрабіце марфалагічны разбор лічэбніка з тэксту (на выбар).

● Падрыхтуйце пісьмовае паведамленне (з выкарыстаннем лічэбнікаў) на тэму «Новыя тэхналогіі абслугоўвання чытачоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі».

## § 34. Скланенне і правапіс лічэбнікаў

Лічэбнік ***адзін (адна, адно, адны)*** скланяецца як прыметнік: *адзін, аднаго, аднаму* і г. д. Слова *адна* ў родным і творным склонах мае два варыянты канчаткаў: Р.: *адной (-ае)*, Т.: *адной (-ою)*.

Лічэбнікі ***два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры*** скланяюцца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *двума* | *дзвюма* |
| М. | *(пры) двух* | *(пры) дзвюх* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. | *(пры) абодвух* | *(пры) абедзвюх* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *тром* | *чатыром* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *трыма* | *чатырма* |
| М. | *(пры) трох* | *(пры) чатырох* |

Лічэбнікі ад ***пяці*** да ***дваццаці*** і ***трыццаць*** скланяюцца як назоўнікі 3-га скланення з асновай на мяккі зычны: *пяць, пяці, пяці, пяць, пяццю, (пры) пяці*. У форме творнага склону гэтых лічэбнікаў пішацца ***цц***: *дзевяццю, дваццаццю* (а л е: *шасцю, сямю, васьмю*).

Лічэбнікі ***сорак, сто*** маюць толькі дзве формы: Н., В. *сорак, сто*; Р., Д., Т., М. *сарака, ста*.

Лічэбнік ***дзевяноста*** не змяняецца.

У лічэбніках ***пяцьдзясят, шэсцьдзясят, семдзесят, восемдзесят***, а таксама ў складаных лічэбніках ад ***двухсот*** да ***дзевяцісот*** пры скланенні змяняюцца абедзве часткі: *пяцьдзясят, пяцідзесяці, пяцюдзесяцю; дзвесце, двухсот, двумстам, дзвесце, двумастамі, (аб) двухстах*.

Лічэбнік ***тысяча*** скланяецца як назоўнік 1-га скланення з асновай на зацвярдзелы зычны, а ***мільён, мільярд*** — як назоўнікі 2-га скланення з асновай на цвёрды зычны. У творным склоне лічэбнік *тысяча* мае форму: *тысячай*.

Лічэбнікі ***паўтара*** і ***паўтары*** ва ўсіх склонах маюць аднолькавую форму: *паўтара (вядра), паўтары (гадзіны)*.

Пры скланенні **састаўных колькасных лічэбнікаў** змяняецца кожнае слова: *сто трыццаць шэсць, ста трыццаці шасці* і г. д.

**Зборныя лічэбнікі** *двое, трое* і іншыя скланяюцца як займеннікі *мае, твае*: *двое, дваіх, дваім* і г. д. Лічэбнік *абое* ў формах ускосных склонаў мае націск на канчатку: *абаі́х, абаі́м* і г. д.

**Парадкавыя лічэбнікі** скланяюцца як прыметнікі: *пяты, пятага, пятаму* і г. д. Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў змяняецца толькі апошняе слова: *трыццаць другі, трыццаць другога* і г. д.

Пры скланенні **дробавых лічэбнікаў** асобна змяняецца кожнае слова: лічнік скланяецца як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы: *адна трэцяя, адной трэцяй* і г. д.

**300.** Запішыце лікі словамі і праскланяйце пісьмова наступныя колькасна-іменныя спалучэнні.

321 вучань, 546 гектараў, 1732 кіламетры, 1979 год.

**301.** Запішыце словамі лікі ў наступных колькасна-іменных спалучэннях.

238 студэнтамі, у 69 краінах, 42 вучням, 32 вучаніцам, на 2751 гектары, у 1380 годзе, на 985 старонках, на 985-м кіламетры, у 2000 годзе, у 2010 годзе.

**302.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і замяняючы лікі словамі.

1. Гомель уп..ршыню ўпамянуты ў летапісах у 1142 годзе. У XII — пачатку XIII стагоддзя ён займаў плошчу 35—40 г..ктараў *(Г. Штыхаў)*. 2. У 1965 годзе ў Беларусі перавозкі грузаў чыгуначным транспартам перавысілі ўзровень 1940 год.. у 2,6 раза, а ўзровень 1945 год.. — у 3,6 раза. 3. У першай палове 80-х гадоў сярэдн..гадавы рост прадукцыйнасці працы складаў 4,5 %, тады як у папярэднія 5 гадоў — 8,6 %. 4. На франтах *(В/в)*ялікай *(А/а)*йчыннай *(В/в)*айны змагаліся каля 1 300 000 беларусаў. Звыш 300 000 салдат і афіцэраў былі ўзнагароджаны ордэнамі і м..далямі, а каля 400 воінаў удастоены звання *(Г/г)*ероя *(С/с)*авецкага *(С/с)*аюза.

● Зрабіце марфалагічны разбор колькаснага і парадкавага лічэбнікаў.

**303.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце граматычныя памылкі, звязаныя з ужываннем лічэбнікаў. Запішыце адрэдагаваныя сказы, абазначце канчаткі лічэбнікаў.

1. Мой дзед нарадзіўся ў тысячу дзевяцісот сорак сёмым годзе. 2. Тэкст выступлення змясціўся на двух старонках. 3. У гэтым годзе прышчэпкі ад грыпу былі зроблены дзвесце тысячам грамадзян. 4. На пяцьдзясят месцаў падалі заявы звыш сто сарака абітурыентаў. 5. Цеплаход з двухстамі трыццаццю пасажырамі паплыў уверх па рацэ. 6. Бацькі ганарыліся сваімі трымя сынамі. 7. Пасевы рапсу ў гэтай гаспадарцы займаюць плошчу каля восемдзесят гектараў. 8. У мінулым годзе звыш пяцьдзясят тысяч нашых грамадзян наведалі суседнія краіны. 9. Дзяніс паступіў ва ўніверсітэт у двухтысячы сёмым годзе.

**304.** Прачытайце тэкст. Вусна перакажыце яго змест.



Зборныя лічэбнікі ***двое — дзеся́цера*** спалучаюцца:
1) з асабовымі займеннікамі: *нас трое, двое з нас*;
2) з назоўнікамі:
- якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *трое вучняў, пяцёра салдат*;
- якія маюць форму толькі множнага ліку і падлягаюць лічэнню: *двое дзвярэй, трое саней*;
- якія абазначаюць назвы маладых істот: *трое кацянят, сямёра ягнят*;
- *дзеці, коні* і некаторымі іншымі: *чацвёра дзяцей, трое коней*.

Зборнымі з'яўляюцца і лічэбнікі *абодва, абедзве*. Пры спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду ўжываецца лічэбнік ***абодва***: *абодва браты, абодва колы*; з назоўнікамі жаночага роду — лічэбнік ***абедзве***: *абедзве сяброўкі*. Калі размова ідзе пра асоб і мужчынскага, і жаночага полу, ужываецца зборны лічэбнік ***абое***: *Антон і Вольга былі студэнтамі, абое вучыліся ў БДУ*.

**305.** Вызначце, якія з прапанаваных слоў спалучаюцца з лічэбнікамі *двое*, *трое*. Утварыце і запішыце адпаведныя словазлучэнні.

Кнігі, джынсы, мы, вуліцы, сябры, коні, зайчаняты, аднакурсніцы, футбалісты, акуляры, фігурысткі, нажніцы, суткі, спартсмены, перамовы, лісяняты, аўтамабілі.

**306.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце памылкі, абумоўленыя няправільным ужываннем лічэбнікаў. Адрэдагуйце сказы.

1. У абодвух сябровак дзень нараджэння быў 18 верасня. 2. Абаім падарожнікам было што расказаць сваім родным. 3. У Пятра было пяцёра дзяцей: трое сыноў і двое дачок. 4. Маці збірала чарніцы абаімі рукамі. 5. Трое аднакласніц — Ганна, Ірына і Аліна — наведвалі студыю выяўленчага мастацтва. 6. У аўдыторыі было двое дзвярэй і чацвёра акон. 7. Абодва — Ігар і Аксана — працавалі на трактарным заводзе.

## § 35. Займеннік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля. Разрады займеннікаў

**307.** Сярод прыведзеных сцвярджэнняў выберыце правільныя.

1) Займеннік — самастойная часціна мовы, якая ўказвае на прадмет, прымету або колькасць, але не называе іх.

2) Займеннік — самастойная часціна мовы, якая абазначае прадмет, прымету або колькасць.

3) Займеннік можа ўжывацца замест усіх самастойных часцін мовы.

4) Займеннік ужываецца замест назоўніка, прыметніка, лічэбніка.

5) Займеннікі змяняюцца па склонах, а некаторыя — па родах і ліках.

6) Усе займеннікі змяняюцца па родах, ліках, склонах.

7) Займеннікі найчасцей выконваюць ролю дзейніка, азначэння, дапаўнення.

8) Займеннік можа быць любым членам сказа.

Складзіце вуснае выказванне пра займеннік як часціну мовы, прывядзіце адпаведныя прыклады.

**308.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Якая праблема хвалюе аўтара? Выкажыце свае адносіны да гэтай праблемы, прадоўжыце тэкст.

Калі некалькі гадоў таму назад у каго-небудзь з вас ды і ў мяне пыталі, што чакае нас заўтра ці паслязаўтра, мы, не задумваючыся, адказвалі: светлая, шчаслівая будучыня. Сёння на такое пытанне гэтак ніхто ўжо не адкажа, бо незвычайна ў апошні час ускладнілася само жыццё. Арсеналы жудаснай зброі, якая здольна знішчыць усё жывое, папаўняюцца новай, яшчэ страшнейшай. Таксічныя рэчывы выбухваюць, выліваюцца з заводскіх рэзервуараў і чыгуначных цыстэран часта побач з чалавечым жыллём. Снедаючы, абедаючы, вячэраючы, хто з нас ведае, колькі чаго мы глытаем разам з ядою — нітратаў, радыеактыўных нуклідаў...

З зямлі памалу знікаюць не толькі асобныя віды раслін, дрэў, птушак, звяроў, але і лясы, рэкі, азёры, нават моры, як гэта адбылося з Аралам і цяпер адбываецца з Каспіем.

Пад пагрозай знішчэння таксама апынуліся цэлыя культуры, мовы, народы і нават сам чалавек... *(Паводле Б. Сачанкі).*



Выпішыце з тэксту займеннікі, запішыце (дзе неабходна) іх пачатковую форму. Вызначце разрады займеннікаў (пры неабходнасці карыстайцеся прыведзенай ніжэй табліцай).

Узор: *каго-небудзь — хто-небудзь (няпэўны), мы (асабовы).*

**Разрады займеннікаў**

| | |
|---|---|
| Асабовыя | *я, мы, ты, вы, ён (яна, яно), яны* |
| Зваротны | *сябе* |
| Прыналежныя | *мой, твой, наш, ваш, свой, яго, яе, іх* |
| Указальныя | *гэты, той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі* |
| Азначальныя | *увесь, усякі, кожны, сам, самы, іншы* |
| Пытальныя | *хто? што? які? чый? каторы? колькі?* |
| Адносныя | *хто, што, які, чый, каторы, колькі* |
| Адмоўныя | *ніхто, нішто, ніякі, нічый, нікольки* |
| Няпэўныя | *нехта, нешта, нейкі, нейчы, хтосьці, штосьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, абы-хто, чый-небудзь, абы-што, абы-які, абы-чый, сёй-той, сякі-такі* |

**309.** Прачытайце. Якія словы забяспечваюць сувязь сказаў у першым абзацы? Спішыце тэкст, апускаючы дужкі, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Займеннікі падкрэсліце як члены сказа.

Мы в..рталіся *(з/са)* школы а снег не пераставаў буйнымі пушынкамі сыпацца на дол. Кругом было прыво..е белых палёў і прастораў. Мы крычалі пра санкі пра лыжы. Мы кідаліся сне..камі см..яліся. Нам[м] было весела разам з гэтай м..целіцай і мне ад радас*(?)*ці хацелася пад разгалістай ліпай с*(?)*пяваць пра снег пра зіму...

Зіма, зіма! Ідзі хутчэй сц..лі снягі на поле на дарогі на нашы вуліцы! Сып м..целіца круці гурбы каб я зноў да-

ставаў шапкай дрэвы. Вось якія яны высокія а заўтра мы памераемся! Ідзі зіма-матуля каб я хутчэй пабольшаў[c] каб я падрос!

Вось так я думаў бегучы са школы ў той дзень калі выпаў першы сне.. калі ўсім сэр*(?)*цам а..чуў што нешта мінуў перажыў а сустракаю хоць і знаёмае але штос*(?)*ці такое новае-новае... *(Паводле І. Грамовіча)*.

● Пабудуйце схему апошняга сказа тэксту.

**310.** Прачытайце тэкст, выбіраючы патрэбную форму займеннікаў, прыведзеных у дужках, вызначце іх разрад. Абгрунтуйце выбар займеннікаў.

КАБ ЦЯБЕ... КАБ ТАБЕ...

У аповесці Янкі Брыля «Ніжнія Байдуны» даецца аўтарская характарыстыка дыялогу цёткі Юсты з дзядзькам Захарам: «Злосці ў той лаянцы не было. Была нават паэзія, хай *(сабе/сябе)* грубая, але ж і хлёсткая. Я мог налічыць колькі хочаш гэтых праклёнаў: “Што ты там дзяўбеш, каб *(цябе/табе)* крумкач вочы выдзеўб!”, “Колькі ты сыпаць будзеш, каб *(цябе/табе)* губы абсыпала!”, “Чаго ты сядзіш, каб ты каменем (або крыцаю) сеў!”, “Чаму ты не едзеш, каб ты бокам ездзіў!”, “Распеліся тут пад акном, каб вы пелі на хлеб!” І так — бясконца».

Януш Няміга ў кнізе «Алтар стала» заўважае, што словамі *каб цябе, каб табе* «пачынаюцца не толькі праклёны, на якія так багата народная мова (Каб *(цябе/табе)* агонь спаліў! Каб *(цябе/табе)* чэрці ўхапілі! Каб *(цябе/табе)* смуткі ўзялі!), але і шматлікія жартаўлівыя пажаданні — нібыта тосты. Колькі разоў даводзілася[c] чуць: “Каб *(цябе/табе)* і ўночы сонейка ззяла!”, “Каб *(цябе/табе)* ліха абышло ціха!”. Але найперш: “Каб быў ты здаровы, як дуб скарбовы!”».

Вызначце разрад ужытых у тэксце займеннікаў.

● Творы якіх фальклорных жанраў заснаваны на веры чалавека ў магічную сілу слова? Прывядзіце прыклады такіх твораў. Пры неабходнасці звярніцеся да двухтомнай энцыклапедыі «Беларускі фальклор» (2005, 2006).

● Назавіце ўстойлівыя параўнанні з кампанентам *здаровы як...* .

## § 36. Скланенне і правапіс займеннікаў

1. Зваротны займеннік ***сябе*** мае наступныя склонавыя формы: Р. *сябе*, Д. *сабе*, В. *сябе*, Т. *сабой (-ою)*, М. *(пры) сабе*.

2. Для абазначэння прыналежнасці прадмета 3-й асобе ўжываюцца займеннікі ***яго, яе, іх***. Формы *ягоны*, *ягоная*, *іхні*, якія часам сустракаюцца ў гутарковым маўленні і ў мастацкіх творах, не адпавядаюць марфалагічным нормам беларускай літаратурнай мовы.

Займеннікі ***мой, твой*** у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду маюць форму *маёй*, *тваёй*. Формы *мае, твае* з'яўляюцца ненарматыўнымі.

Займеннікі ***свой, наш, ваш*** у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду побач з формай *сваёй, нашай, вашай* маюць і менш пашыраную — *свае, нашае, вашае*. Ужыванне ў назоўным склоне форм *нашая, вашая, нашае, вашае, нашыя, вашыя*, а ў вінавальным *нашую, вашую, нашае, вашае, нашыя, вашыя* не адпавядае марфалагічным нормам (трэба: *наша, ваша, нашу, вашу* і г. д.).

3. Указальны займеннік ***гэты*** ў вінавальным склоне жаночага роду мае формы *гэту* і *гэтую*, у родным склоне — *гэтай* і *гэтае*. У родным склоне займеннік ***тая*** мае формы *той, тае́*.

4. Ва ўскосных склонах азначальнага займенніка ***сам*** націск падае на канчатак: *само́га, само́му*; займенніка ***самы*** — на аснову: *са́мага, са́маму*.

Займеннік жаночага роду ***сама*** ў вінавальным склоне мае дзве формы: *саму́* і *саму́ю*. Займеннік жаночага роду ***ўся*** ў родным склоне побач з формай *усёй* мае менш пашыраную — *усяе́*.

5. Займеннік жаночага роду ***чыя*** ў родным склоне мае формы *чыёй, чые*.

6. Пры скланенні адмоўных займеннікаў ***ніхто, нішто*** націск падае на першы галосны канчатка: *ніко́га, нічо́га*.

У займенніку **ніякі** *(ніякая, ніякае, ніякія)* ва ўсіх скланавых формах націск захоўваецца на аснове: *нія́кага, нія́каму* і г. д.

Прыназоўнік, які ўжываецца пры адмоўным займенніку, ставіцца пасля *ні*: *ні з чым, ні з якім*.

**311.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі і ставячы займеннікі, што ў дужках, у патрэбнай скланавай форме. Пры магчымасці ўжывання дзвюх форм другую ўкажыце ў дужках.

1. Ваюючы з прыродай, чалавек пачынае вае*(н/нн)*ы.. дзея*(н/нн)*і і супраць *(сябе) (сам) (Я. Радкевіч)*. 2. Перад *(ніхто)* у цэлым свеце вачэй мы не апусцім да з..млі *(Б. Алейнік)*. 3. Валя прывыкла называць *(гэты)* зорку сваёй *(В. Гігевіч)*. 4. *(Усе)* сябрам ты[м] не дагодзіш, а толькі сам[м] *(сябе)* нашкодзіш *(С. Міхалкоў)*. 5. Васілю падабалася ў брыгадзе. Ніхто[м] на *(ніхто)* не крычаў, не падганяў *(І. Навуменка)*. 6. З *(уся) (П/п)*ола*(ч/чч)*ыны прыехалі ў горад на восеньскі кірмаш с..ляне. 7. На варце *(наш)* краіны стаялі дружна лепшы.. сыны *(П. Глебка)*. 8. З *(гэты)* станцыі эл..ктрычнасць атрымліваюць найбуйнейшы.. прадпрыемствы горада.

**312.** Прачытайце сказы, знайдзіце займеннікі, пры ўжыванні якіх парушаны марфалагічныя нормы. Запішыце сказы ў адрэдагаваным выглядзе.

1. Ягоных бацькоў я ведаў вельмі добра. 2. Самага дырэктара на нарадзе не было: паехаў у камандзіроўку. 3. Пры сябе ў байцоў былі рукзакі з боепрыпасамі і харчаваннем і зброя. 4. Іхняя хата стаяла недалёка ад маёй, пры рэчцы. 5. Нашая рэчка яшчэ сорак гадоў таму была вельмі рыбная. 6. У мае сястры дачка вучыцца ў каледжы. 7. Ніякога дажджу сёння так і не было. 8. На вашае вяселле я абавязкова прыйду. 9. Дзед нікога не запрашаў да сябе і да нікога не хацеў ісці сам.

# § 37. Дзеяслоў: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля



**313.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго адрасата і мэтанакіраванасць. Складзіце і запішыце план (або схему) тэксту, перакажыце змест з апорай на план (схему).

АСАБОВЫЯ І АСОБЫЯ ФОРМЫ ДЗЕЯСЛОВА

Дзеяслоў мае некалькі форм.

**Неазначальная форма дзеяслова** (інфінітыў) — гэта яго пачатковая форма. Яна толькі называе дзеянне, але не мае форм часу, асобы, ліку: *думаць, берагчы, захапляцца.*

Формы дзеяслова, якія паказваюць, хто або што ўтварае дзеянне, называюцца **асабовымі:** *я чытаю, рабочы будуе, мы з братам робім урокі.*

Ёсць **асобыя** формы дзеяслова, якія спалучаюць у сабе прыметы дзеяслова і прыметніка (дзеепрыметнік), дзеяслова і прыслоўя (дзеепрыслоўе). Дзеепрыметнік абазначае прымету прадмета, выражаную праз дзеянне: (я к о е?) ***зжатае*** *поле,* а дзеепрыслоўе — прымету дзеяння, якое перадаецца праз іншае, дадатковае, дзеянне: *чытаў* (я к?) ***стоячы***; (к а л і?) ***падсілкаваўшыся***, *бацька выбраўся ў дарогу.*

**314.** Прачытайце. Вызначце, якія словы з'яўляюцца лішнімі ў кожным радку. Абгрунтуйце свой адказ.

Чырвоны, чырванець, пачырванець.
Прыходзіць, заходзіць, выхад, пераходзіць.
Ехаць, заезд, пераезд, аб'езд.
Падсушаны, сушыць, засохлы, сушаны.
Чытаць, чытаючы, зачытваючыся, недачытаўшы.

● Выпішыце словы, утвораныя бяссуфіксным спосабам.

**315.** Выканайце тэставыя заданні.

1. Дзеяслоў абазначае:
1) прадмет;
2) прымету прадмета;
3) дзеянне або стан прадмета;
4) прымету дзеяння.

2. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, утворанае само па сабе, без указання на асобу, маюць назву:

1) інфінітывы; 3) дзеепрыслоўі;
2) асабовыя дзеясловы; 4) безасабовыя дзеясловы.

3. Зваротныя дзеясловы маюць постфікс:

1) -***ць***; 3) -***ці***;
2) -***ся***; 4) -***сьці***.

4. Дзеясловы якога ладу абазначаюць дзеянне, што адбываецца ў цяперашнім, прошлым ці будучым часе?

1) абвеснага; 3) умоўнага;
2) загаднага; 4) дзеясловы ўсіх трох ладоў.

5. Дзеясловы закончанага трывання маюць формы:

1) цяперашняга часу; 3) будучага простага часу;
2) прошлага часу; 4) будучага складанага часу.

6. Змяненне дзеясловаў па асобах і ліках мае назву:

1) спражэнне; 3) словаўтварэнне;
2) скланенне; 4) чаргаванне.

7. У сказе асабовыя формы дзеяслова выконваюць ролю:

1) дзейніка; 3) азначэння;
2) выказніка; 4) акалічнасці.

**316.** Выразна прачытайце тэкст. Назавіце дзеясловы, ужытыя ў пераносным значэнні.

На ніцях белай павуціны
Прывозяць восень павучкі.
Яе красёнцы, чаўначкі
У моры лесу мільгатнулі
І лісце ў багру апранулі:
І з кожнай[м] лісцевай галоўкі
Глядзіць твар восені-свякроўкі.
Павее ветрык — шурхнуць* травы.
Няма ў ім ласкі, ні забавы.
Не — то не шолах каласочкаў,
Не смех блакітных васілёчкаў
У межах роснай збажыны.

Не — то не музыка вясны,
А ціхі жаль і нараканне,
З жыццём і сонцам развітанне.
Шыбуюць гусі ў край далёкі
І жураўлі ў той самы край.
— Бывай жа, лецейка, бывай!
Бывайце, родныя валокі*!

*Я. Колас.*

● Выпішыце з тэксту ўсе дзеясловы, вызначце іх трыванне і час, запішыце пачатковую форму.

У з о р: *ходзяць (незак. тр., цяп. ч.) — хадзіць.*

● Знайдзіце ў тэксце словы, у якіх адбываецца асіміляцыя зычнага па мяккасці. Перадайце ў транскрыпцыі вымаўленне спалучэнняў *у ім, не смех, з жыццём.*

**317.** Спішыце прыказкі, ужыўшы дзеяслоў у патрэбнай форме з часціцай ***не***.

У з о р. *Чаго (згубіць), таго (знайсці). — Чаго не згубіў, таго не знойдзеш.*

1. Чаго сабе *(хацець)*, другому *(зычыць)*. 2. *(Рабіць)* ліхога і *(баяцца)* нікога[м]. 3. *(Чапаць)* нічога і *(баяцца)* нікога. 4. *(Пражыць)*, каб і камар *(укусіць)*. 5. Сварка да дабра *(давесці)*. 6. Чужым розумам *(пражыць)*. 7. З дзявочай красы вады *(напіцца)*. 8. На чужы каравай рот *(разяваць)*: каравай *(праглынуць)*, а рот да вушэй раздзярэш.

● Вызначце разрады займеннікаў, ужытых у прыказках.
● Напішыце міні-сачыненне на тэму адной з прыказак (на выбар).

**318.** Прачытайце тэкст, сфармулюйце яго асноўную думку. Вызначце спосаб і сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Я дома. Тут маё карэнне, пачатак мяне самога, мой працяг. Тут жылі мае дзяды, тут пасвіў, касіў, вяршыў стагі, спускаў бярозавы сок, араў, сеяў, баранаваў, звозіў снапы,

малаціў мой бацька. Я першы кінуў адвечны хлебаробскі занятак маіх продкаў. Яны прыходзілі і адыходзілі, перадаючы — з рук у рукі — сваім наступнікам стары, але лёгкі і ходкі плуг з люстэркам лемяша; да паловы зрэзаную і ўсё яшчэ вострую, як брытва, касу з выгладжаным да бляску касільнам; берасцяную каробку-сяўню ды цупкі малацьбітны цэп. Усе мае папярэднікі — о, як мала я ведаю пра іх! — бралі гэта ў спадчыну як самы дарагі скарб. Я першы не ўзяў. Я разарваў доўгі спрадвечны ланцуг хлебаробскага племя... *(К. Цвірка)*.

Выпішыце з тэксту 6 дзеясловаў прошлага часу абвеснага ладу, утварыце ад іх і запішыце форму ўмоўнага ладу.

У з о р: *жылі — жылі б*.

● Выпішыце з тэксту назвы сельскагаспадарчых прылад працы, запішыце дзеясловы, якія ўказваюць на іх прызначэнне.

У з о р: *плуг — араць*.

● Замяніце словазлучэнне *бярозавы сок* адным словам.

**319.** Прачытайце тэкст. Запішыце сказ, у якім выражана асноўная думка тэксту, растлумачце яе.

Выпішыце зваротныя дзеясловы, у дужках абазначце іх асобу, лік, час. У якіх зваротных дзеясловах нельга вызначыць час, асобу, лік?

КОРАНЬ ЗЛА

Каб не рабіць злых спраў, трэба пазбягаць не толькі саміх спраў, але і злых размоў. А каб утрымацца ад злых спраў і размоў, трэба навучыцца стрымліваць сябе ад злых думак. Калі ты сам-насам і да цябе прыйшлі нядобрыя думкі (ты га́ніш каго-небудзь або злуешся на некага), успомні, што дрэнна так думаць, спыніся і пастарайся думаць пра штонебудзь іншае. Толькі тады ты навучышся ўтрымлівацца ад злых спраў, калі навучышся стрымліваць злыя думкі.

Корань злых спраў у дрэнных думках *(Л. Талстой)*.

● Дакажыце, што слова *корань* мнагазначнае.



**320.** Прачытайце табліцу. Раскажыце аб правапісе асабовых канчаткаў дзеясловаў I і II спражэнняў.

**I спражэнне**

| Асоба | адзіночны лік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1-я<br>2-я<br>3-я | *дума-ю*<br>*дума-еш*<br>*дума-е* | *няс-у*<br>*няс-еш*<br>*няс-е* | *бяр-у*<br>*бяр-эш*<br>*бяр-э* | *маг-у*<br>*мож-аш*<br>*мож-а* | *пішу*<br>*піша-ш*<br>*піш-а* |
| | **множны лік** | | | | |
| 1-я<br>2-я<br>3-я | *дума-ем*<br>*дума-еце*<br>*дума-юць* | *няс-ём*<br>*нес-яце*<br>*няс-уць* | *бяр-ом*<br>*бер-аце*<br>*бяр-уць* | *мож-ам*<br>*мож-аце*<br>*мог-уць* | *піш-ам*<br>*піш-аце*<br>*піш-уць* |

**II спражэнне**

| Асоба | адзіночны лік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1-я<br>2-я<br>3-я | *вуч-у*<br>*вуч-ыш*<br>*вуч-ыць* | *бач-у*<br>*бач-ыш*<br>*бач-ыць* | *каш-у*<br>*кос-іш*<br>*кос-іць* | *гляджу*<br>*глядз-іш*<br>*глядз-іць* | *ста-ю*<br>*ста-іш*<br>*ста-іць* |
| | **множны лік** | | | | |
| 1-я<br>2-я<br>3-я | *вуч-ым*<br>*вуч-ыце*<br>*вуч-аць* | *бач-ым*<br>*бач-ыце*<br>*бач-аць* | *кос-ім*<br>*кос-іце*<br>*кос-яць* | *глядз-ім*<br>*гледз-іце*<br>*глядз-яць* | *ста-ім*<br>*ста-іце*<br>*ста-яць* |

**321.** Спішыце прыказкі, устаўляючы прапушчаныя літары ў асабовых канчатках дзеясловаў. Растлумачце іх напісанне.

1. Адзін і пры месяцы роб..ць, а другі і пры сонцы сп..ць. 2. Глыбей узар..ш, болей збяр..ш. 3. Калі старанна кос..ць, то сена зімою не прос..ць. 4. Не святыя гаршкі леп..ць. 5. Работа і корм..ць, і по..ць, і жыць вуч..ць. 6. Хоць ціха ходз..ць, але шчыра роб..ць. 7. Зямлю не ўгно..ш — хлеба не намалоц..ш.

Утварыце і запішыце ад кожнага з дзеясловаў форму 1-й асобы адзіночнага ліку. Абазначце карані (з улікам чаргавання зычных і галосных).

## § 38. Ужыванне асабовых канчаткаў дзеясловаў

Пры ўтварэнні форм 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння канчаткі ***-ом, -ём*** ужываюцца пад націскам, канчаткі ***-ам, -ем*** — не пад націскам: *бяражо́м, вязём, пі́шам, малю́ем.*

У формах 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў пад націскам ужываюцца канчаткі ***-аце, -яце***, не пад націскам — ***-аце, -еце***: *сечаце́, ідзяце́, ка́жаце, зберага́еце.*

**322.** Пры спісванні сказаў раскрыйце дужкі і замяніце формы дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку формамі 2-й асобы множнага ліку.

1. Як пражывеш, так і праслывеш.
2. Вышэй галавы *(не)*падскочыш.
3. За *(дву/дзвю)*ма зайцамі пагонішся — ні аднаго *(не)*зловіш.
4. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.
5. З песні слова *(не)*выкінеш.
6. З хараства вады *(не)*нап'ешся.
7. Маслам кашу *(не)*сапсуеш.
8. Паспяшыш — людзей насмяшыш.
9. Шыла ў мяшку *(не)*утоіш.

● Зрабіце марфалагічны разбор двух дзеясловаў (I і II спражэнняў).

**323.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце граматычныя памылкі, абумоўленыя парушэннем марфалагічных норм.

1. Мы ідзем па беразе лясной рачулкі, якая ўпадае ў возера Кромань. 2. Як пасеяце, так і пажнеце. 3. «Ці падвязеце Вы нас да Гомеля?» — спыталі хлопцы. 4. «Давай возьмям Шарыка з сабою ў лес», — прапанавала старэйшая дзяўчынка. 5. Якую робіце справу, такую маяце славу. 6. Давайце мы падстрыжэм гэтыя кусты, і знешні выгляд дворыка адразу зменіцца.

Неабходна адрозніваць канчаткі дзеясловаў абвеснага і загаднага ладу.

Формы дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўжываюцца з канчаткамі ***-ем (-эм, -ам), -ім (-ым)***. Адны з гэтых форм спецыфічныя для загаднага ладу: *хадзем, бярэм, нясем* і інш., другія супадаюць з формамі будучага простага часу абвеснага ладу: *сходзім, напішам, паедзем* і інш.

**324.** Спішыце сказы, выбіраючы з дужак неабходныя канчаткі дзеясловаў. Растлумачце ўжыванне гэтых канчаткаў.

1. Раніца. Світае. Бяр*(ом/эм)* падрыхтаваныя загадзя вуды і ідз*(ём/ем)* да возера. 2. «Няс*(ем/ём)* усё гэта да нас», — прапанаваў Андрэй, паказваючы на вёдры з рыбаю. 3. «Бяр*(эм/ом)* лыжы і выходзім на стадыён», — гучным голасам загадаў настаўнік фізкультуры. 4. «Адпачн*(ем/ём)* хвіліну. Нікуды не ўцячэ гэтая касьба», — сказаў дзед Нічыпар, выціраючы касу вільготнаю травою. 5. Ужо амаль суткі плыв*(ем/ём)* на невялікім цеплаходзе ўніз па Дняпры.

## § 39. Дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе як асобыя формы дзеяслова

**325.** Параўнайце выдзеленыя словы. Вызначце, да якой часціны мовы (ці яе форм) яны адносяцца і якімі членамі сказа з'яўляюцца.

1. Хлопчык **пачырванеў** ад сораму і апусціў галаву.
2. **Пачырванеўшы** ад сораму, хлопчык апусціў галаву.
3. **Пачырванелы** ад сораму хлопчык апусціў галаву.

Параўнайце дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе. Раскажыце, ад якой часціны мовы яны ўтвораны, што абазначаюць, прыметы якіх часцін мовы спалучаюць у сабе, як змяняюцца, якімі членамі сказа могуць быць. Пры неабходнасці карыстайцеся змешчанай ніжэй табліцай.

Параўнайце правілы выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў.

Перабудуйце і запішыце другі і трэці сказы так, каб дзеепрыметнікавы і дзеепрыслоўны звароты стаялі пасля назоўніка (дзейніка). Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**Асобыя формы дзеяслова**

| Адзнакі | | | |
|---|---|---|---|
| Значэнне | | Марфалагічныя прыметы | Сінтаксічная роля |
| Дзеепрыметнік | Абазначае прымету прадмета паводле дзеяння, адказвае на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я? | • Ад дзеяслова: стан, трыванне, час, пераходнасць/непераходнасць; • ад прыметніка: род, лік, склон | Азначэнне, выказнік |
| Дзеепрыслоўе | Абазначае дадатковае дзеянне ў адносінах да галоўнага, выражанага дзеясловам-выказнікам, адказвае на пытанні ш т о р о б я ч ы? ш т о з р а б і ў ш ы? | • Ад дзеяслова: трыванне, час, зваротнасць/незваротнасць, пераходнасць/непераходнасць; • ад прыслоўя: не змяняецца | Акалічнасць |

**326.** Прачытайце тэкст. Размяркуйце выдзеленыя словы, выпісаўшы спачатку прыметнікі, а потым дзеепрыметнікі.

ПЕРШЫ ІНЕЙ

Былі пагодныя дні. З сонцам ад ранку да вечара, з сінім небам. Днём было яшчэ цёпла, а пад вечар **апусцелая, няласкавая** зямля стыла на холадзе. Пад поўнач бяліў яе іней, у **ледзяныя, звонкія** раніцы і трава каля платоў і на выганах, і палі з загонамі яшчэ **не скапанай** бульбы, і **панурыя, учарнелыя** стрэхі — усё было па-зімоваму белае. Калі ўздымалася над алешнікам[м] сонца, **светлае, прамяністае**, ад інею заставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці. Неўзабаве знікалі і яны.

Неба гэтымі днямі сінела чыстае і глыбокае. Яно не было цяпер такое яркае, як раней, часта атульвала яго **белаватая**, нібы малочная, смуга, і яно здавалася бляклым, быццам **выгаралым** за ліпеньскую і жнівеньскую спёку.

У **лагодным сонечным** святле гарэлі **сумным адвечным** полымем ліпы і бярозы каля хат, дрэвы ў недалёкім лесе. Як сівізна ад былога, ад перажытага, бялела ўсюды павуціна. Яна вісела ў паветры, абчэплівала **павялы** і **пасохлы** бульбоўнік, жэрдкі вакол агародаў, **пажоўклыя** кусты. Усё агортваў спакойны, стары, як свет, смутак развітання з цяплом, з летам... *(І. Мележ)*.

**327.** Разгледзьце схемы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. Падрыхтуйце (на аснове схем) вуснае паведамленне аб правілах выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў. Якія правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі не адлюстраваны на схемах?

| Дзеепрыметнікавы зварот | Дзеепрыслоўны зварот |
| --- | --- |
| наз., /~~~~~~~~/. | /_ . _ . _ . _/, ═══════ . |
| наз., /~~~~~~~~/, ... . | ..., /_ . _ . _ . _/, ... . |
| /~~~~~~~~/ наз. . | ═══════, /_ . _ . _ . _/. |

**328.** Прачытайце тэкст, ужываючы назоўнікі ў дужках у патрэбнай склонавай форме. Знайдзіце ў тэксце дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. У якіх выпадках аўтар выкарыстоўвае дзеепрыметнікі, а ў якіх — дзеепрыслоўі? Чым гэта абумоўлена?

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі.

Скончыўшы сваё снеданне, сабраўся дзед крыху адпачыць. Але глухі шорах у *(лес)* прымусіў яго прыслухацца і разгледзецца[c]. І бачыць дзед Талаш: вялізны дзікі кабан павольна выходзіць з ляснога *(гушчар)* і брыдзе па чэрава* ў *(снег)*, не зважаючы на дзеда. Кабан падыходзіць да прыгожага *(стажок-мурашнік)*, акуратна і роўна прысыпанага снегам, і запыняецца. А потым пачынае разрываць яго сваім страшным ікластым лычом. Кожны рух магутнага лыча высока ўскідае ўгору камякі *(снег)* разам са

смеццем, нанесеным мурашкамі за цэлыя гады ўпартай працы. І хутка дзве цёмныя баразны вырысоўваюцца на чыстым некранутым *(снег)* *(Я. Колас)*.

Зрабіце марфалагічны разбор асабовага дзеяслова, дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя з тэксту.

## § 40. Утварэнне, ужыванне і правапіс дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў



**329.** Уважліва прачытайце матэрыял табліцы. Раскажыце пра ўтварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў у сучаснай беларускай мове.

**Утварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў**

| **Час** | **Спосаб утварэння** | **Прыклады** | **Ужыванне** |
|---|---|---|---|
| | | **Незалежны стан** | |
| Цяперашні час | аснова дзеяслова цяперашняга часу + суфіксы -***уч***-, -***юч***-, -***ач***-, -***яч***- | *кір**ую**чая роля, гавор**ач**ая асоба, віс**яч**ы замок* | ужываюцца абмежавана; выкарыстоўваюцца ва ўстойлівых зваротах тыпу *рухаючая сіла, кіруючая роля* і інш. |
| Прошлы час | аснова дзеяслова неазначальнай формы + суфікс -***л***-,<br>суфіксы -***ш***-, -***ўш***- | *перасп**ел**ыя ягады,*<br>*зні**кш**ы чалавек, парыжэ**ўш**ыя стагі* | пашыраны ў літаратурнай мове;<br>ужываюцца абмежавана; часта замяняюцца дзеепрыметнікамі з суфіксам -***л***-: *парыжэ**л**ыя стагі, зні**кл**ы чалавек* |

| **Час** | **Спосаб утварэння** | **Прыклады** | **Ужыванне** |
|---|---|---|---|
| **Залежны стан** | | | |
| Цяперашні час | аснова дзеяслова цяперашняга часу + суфіксы -***ем***-, -***ім***- | *чыта**ем**ы твор, вывуча**е**-**м**ыя з'явы* | не характэрны літаратурнай мове |
| Прошлы час | аснова дзеяслова неазначальнай формы + суфіксы -***н***-, -***ен***-, -***ан***-, -***т***- | *пабудава**н**ы дом, прывез**ен**ая мэбля, вывуч**ан**ы верш, вымы**т**ы посуд* | шырока выкарыстоўваюцца ў маўленні |

**330.** Успомніце, калі ў дзеепрыметніках пішуцца суфіксы -***н***-, -***ан***-, -***ен***-, -***т***-. Прывядзіце і запішыце прыклады, растлумачце правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў.

**331.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, правільна падбіраючы адпаведнікі да рускіх дзеепрыметнікаў.

Лёгкая, щебечущая, острая, смеющаяся, вежливая до дерзости, порхающая, как мотылёк, речь француза; тяжёлая, туманная, вдумывающаяся сама в себя, рассчитанная речь британца; ясная, сжатая, избегающая всякой неопределённости, прямо идущая к делу, практическая речь немца; певучая, сверкающая, играющая красками, образная речь итальянца; бесконечно льющаяся, волнуемая внутренним вздымающим её чувством и изредка разрываемая громкими всплесками речь славянина — лучше всех возможных характеристик, лучше самой истории знакомят нас с характерами народов, создавших эти языки. Вот почему лучшее и даже единственно верное средство проникнуть в характер народа — усвоить его язык, и чем глубже вошли мы в язык народа, тем глубже вошли в его характер *(К. Ушинский)*.

*Слоўнік:*

*дерзость* — ***дзёрзкасць;***
*ясный* — ***выразны;***
*неопределённость* — ***неакрэсленасць, няпэўнасць, невыразнасць;***
*сверкающий* — ***зіхатлівы, бліскучы;***
*всплеск* — ***усплёск;***
*волнуемая внутренним вздымающим её чувством* — ***усхваляваная ад унутранага пачуцця.***

Якія моўныя сродкі ўжываюцца пры перакладзе для замены неўласцівых беларускай мове дзеепрыметнікаў?

Запішыце дзеепрыметнікі, растлумачце іх утварэнне і правапіс.

**332.** Спішыце тэкст, апускаючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

УРАЧЫСТАЯ ВЯЧЭРА

Увесь дзень перад «святым вечарам» маці шкр..бла нажом стол лавы мыла ўсё. *(Ад)*ранку ледзь н.. да сам..га вечара *(н..)*тух у печы агонь. В..чэра мусіла быць пос*(?)*ная але ж трэба было *(з/с)*гатаваць дванаццаць страў.

З нейкай урачыстас*(?)*цю сачыў бацька як маці с*(?)*лала на вымытым стале сена як накрывала яго чыстым настольнікам як клала бохан хлеб.. нож лыжкі ставіла конаўку з соллю.

За сталом маці і бацька сядзелі маўкліва нібы чулі за сабою цені тых хто даўно ўжо *(н..)*прасіў яды. Абое было відаць думалі ўспаміналі. Бацька перш чым браць якой стравы адліваў лыжку ў міску пастаўленую на акне дзядам. Міканор ледзь дачакаўся калі бацька нарэшце паставіць на стол гаршчок з куццёю нал..е салодкай вадзіцы-сыты з маку і мёд.. паспытаўшы якія можна не крыўдзячы старых устаць...

Заўважыў што *(н..)*пустыя міскі пасля вячэры так і асталіся на стале... *(Паводле І. Мележа)*.

З якой мэтай на стале быў пакінуты посуд з ежай?

Калі, згодна з беларускім народным календаром, адзначаюцца дні памяці памерлых?

Выпішыце з тэксту зменныя формы дзеяслова (асабовыя формы і дзеепрыметнікі), нязменныя формы дзеяслова (дзеепрыслоўі і інфінітывы).

**Звярніце ўвагу!**

Часцей за ўсё сустракаюцца наступныя памылкі ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў:

1. Выкарыстоўваюцца неўласцівыя беларускай мове формы дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага і залежнага стану: *квітнеючыя сады, зацвітаючыя кветкі, разглядаемыя малюнкі, кіруемыя павадыром*.

2. Паяснёны зваротам назоўнік аказваецца ўнутры дзеепрыметнікавага звароту: *Асветленае лісце апошнімі промнямі залацілася на сонцы* (правільна: *Асветленае апошнімі промнямі лісце залацілася на сонцы* або *Лісце, асветленае апошнімі промнямі, залацілася на сонцы*).

У сучаснай беларускай мове адсутнічаюць зваротныя дзеепрыметнікі.

**333.** Прачытайце сказы. Знайдзіце недакладнасці ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў. Выпраўце памылкі і запішыце правільныя сказы.

1. Над зарослай лесасекай густым арэшнікам плыло павуцінне бабінага лета. 2. Круглая, зарослая паляна кустамі ўся была ўсыпана густым верасам. 3. Разгуляўшаяся дзіця не звяртала ніякай увагі на просьбы бацькоў супакоіцца. 4. Прымаемы на трэці квартал план мерапрыемстваў не выклікаў пярэчанняў у прысутных.

Дзеепрыслоўе абазначае дзеянне той самай асобы ці прадмета, што і выказнік: *Стары ішоў, не зважаючы на тое, што рабілася вакол* (стары ішоў і не зважаў). Нельга сказаць: *Ідучы дадому, у мяне забалела галава* (у сказе два ўтваральнікі дзеяння: ***я** ішоў, **галава** забалела*). Правільна: *Калі я ішоў дадому, у мяне забалела галава* або *Ідучы дадому, я адчуў, што ў мяне забалела галава.*

Дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, сэнсава і граматычна звязваецца з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам. Нельга сказаць: *Паліваючы кветкі, дзяўчынкі закончылі работу* (правільна: *Паліўшы кветкі, дзяўчынкі закончылі работу*).

